

## КАРОТКІ ЗМЕСТ



Блок службовай інфармацыі:
аўтары, рэдакцыя, выдаўцы і г.д.




# Я, АЎТАР...

## АЛЬБО ЎСЁ, ШТО ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ АЎТАРУ ПРА АЎТАРСКАЕ ПРАВА Ў БЕЛАРУСІ

*“На што мы дзясяткі гадоў трацілі*
*свой грамадзянскі імпэт, свой творчы запал?*
*На змаганне за тое, што даўно ўжо дасягнута*
*ў самых слабаразвітых краінах,*
*што для якой-небудзь Верхняй Вольты*
*пройдзены і забыты этап”*

*Васіль Быкаў,*
*з выступу на X З’ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі,*
*25—26 красавіка 1990 г.*



# 1. АГУЛЬНЫ АГЛЯД

## ЯК УЗНІКЛА АЎТАРСКАЕ ПРАВА?

Аўтарскае права прайшло працяглы і складаны гістарычны шлях. Гэта выклікана тым, што чалавецтва даволі павольна рухаецца ў накірунку прызнання ролі закона ў рэгуляванні грамадскіх і асабістых стасункаў.

Большасць аўтараў звязваюць зараджэнне аўтарскага права са з'яўленнем кнігадруку ў Еўропе ў XV ст., калі стаў выкарыстоўвацца друкарскі станок Гутэнберга.

Але тэхніка кнігадруку з'явілася яшчэ раней у Кітаі і Карэі, дзе трымалася ў сакрэце ад астатняга свету. Этнографы мяркуюць, што прота-панятак інтэлектуальнай уласнасці існаваў у розных народаў яшчэ на самых ранніх этапах гісторыі.

У Старажытнай Грэцыі і Рыме плагіят лічыўся ганебным учынкам, а самі аўтары атрымоўвалі ўзнагароду за свае творы.

Першы закон аб аўтарскім праве з'явіўся ў Англіі ў 1709 годзе. Беларусь атрымала адпаведны закон у складзе Расійскай Імперыі ў 1830 годзе. Дадзены акт датычыўся выключна літаратурных твораў.

На сённяшні момант асноўным законам у сферы аўтарскага права Беларусі з'яўляецца Закон Рэспублікі Беларусь “Аб аўтарскіх і сумежных правах” ад 17 мая 2011 г. № 262-З. Далей па тэксце ён будзе пазначацца як Закон.

## ЯК І НАВОШТА З'ЯВІЛАСЯ АЎТАРСКАЕ ПРАВА?

У XIX ст. большасць краін ужо мела ўласнае заканадаўства ў сферы аўтарскага права. Але яно было адносна эфектыўным толькі на тэрыторыі асобнай дзяржавы і не ўлічвала інтарэсы аўтараў іншых краін.

Для выпраўлення сітуацыі і гарманізацыі стасункаў між аўтарамі з розных краін у 1886 годзе было падпісанае першае ў гісторыі шматбаковае міжнароднае пагадненне — **Бернская канвенцыя аб ахове літаратурных і мастацкіх твораў**. У 1952 годзе была прынятая другая асноўная міжнародная канвенцыя — **Сусветная канвенцыя аб аўтарскім праве**. У 1967 годзе з'явілася Канвенцыя аб заснаванні Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці. У 1994-м прынятае Пагадненне па гандлёвых аспектах правоў інтэлектуальнай уласнасці (Пагадненне ТРІПС).

У беларускім заканадаўстве можнаназіраць уплыў вышэйзгаданых міжнародных палажэнняў.

## ЯКІЯ АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ АЎТАРСКАГА ПРАВА?

У аснову аўтарскага права пакладзены тэзіс пра тое, што прадукт разумовай дзейнасці чалавека з'яўляецца неад'емнай часткай яго асобы.

Аўтарскае права юрыдычна замацоўвае правы ўласнасці аўтараў, у тым ліку пісьменнікаў, на іх творы і рэгулюе наступныя пытанні:

- маральныя і маёмасныя правы аўтара,
- перадачу правоў і ўзнагароджанне аўтара,
- абарону ад неправамернага выкарыстання.

Мэта дзяржавы — вырашэнне супярэчнасцяў паміж патрэбамі грамадства ў ведах і прагрэсе і правамі стваральнікаў аўтарскіх твораў.



## ЦІ ЗГОДНЫЯ АЎТАРЫ З ГЭТЫМІ ПРЫНЦЫПАМІ?

Асабіста **я згодны(а)** / **не згодны(а)**
(падкрэсліць неабходнае)

Па ўсім свеце большасць арганізацый падтрымліваюць дадзеныя прынцыпы.

Прынамсі, першым дакументам, дзе была пісьмова замацавана такая згода, сталася **Хартыя правоў аўтараў**. Хартыю ў 1956 годзе прыняла Міжнародная канфедэрацыя таварыстваў аўтараў і кампазітараў, яна ўтрымлівае наступнае:

*“Творы чалавечага розуму з'яўляюцца адначасова адлюстраваннем асобы аўтара і яго матэрыяльным здабыткам”.*

*“Па тым жа прынцыпе аўтар надзелены выключным правам дазваляць любое камерцыйнае выкарыстанне свайго твора, незалежна ад яго каштоўнасці і прызначэння”.*

*“Аўтары літаратурных, музычных, мастацкіх і навуковых твораў адыгрываюць такую духоўную і інтэлектуальную ролю ў грамадстве, якая адказвае глыбокім і пастаянным інтарэсам чалавецтва і з'яўляецца вырашальным фактарам у развіцці цывілізацыі”.*

*“Дзяржава, адпаведна, павінна прадаставіць аўтару як мага больш шырокую ахову, з улікам не толькі яго асабістых дасягненняў, але і ягонага ўнёску ў грамадскі дабрабыт”.*

## ЯКАЯ АГУЛЬНАЯ ПРЫРОДА АХОВЫ АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ?

Вынаходніцтва, майстэрства, праца над творам ахоўваюцца аўтарскім правам. Але па факце вынікі творчай дзейнасці ахоўвацца не могуць, пакуль не прымуць якой-небудзь матэрыяльнай формы.

Такім чынам, у аўтарскім праве першаснае значэнне мае матэрыяльнае ўвасабленне аўтарскай ідэі (кніга, артыкул, карціна, мелодыя, танец, плытка).

З юрыдычнай кропкі гледжання незаконнае капіяванне твора разглядаецца як крадзеж.

## ЦІ МАЕ АЎТАРСКАЕ ПРАВА СПЕЦЫЯЛЬНУЮ ТЭРМІНАЛОГІЮ?

Аўтарскае права мае сваю прафесійную лексіку.

Дакладнае юрыдычнае значэнне ягоных словаў адрозніваецца ад іх агульнапрынятага сэнсу.

Напрыклад, панятак *"аўтар"* абазначае стваральніка літаратурнага, мастацкага, навуковага твора. Але ў залежнасці ад формы твора аўтар можа называцца пісьменнікам, скульптарам, кампазітарам, харэографам.

Панятак *"літаратурны твор"* ахоплівае прозу, паэзію, творы музыкі, навукі, пластычнага мастацтва, камп'ютарныя праграмы.

*"Апублікаванне"* — гэта не звычайны друк у кнізе ці газеце, а прадстаўленне публіцы твора ў пісьмовай ці вуснай формах.

## ШТО ТАКОЕ АРЫГІНАЛЬНАСЦЬ ТВОРА?

Арыгінальны твор вызначаецца як прадукт самастойнай думкі і працы. У выпадку, калі два аўтары незалежна адзін ад аднаго прыйшлі да аднолькавага выніку, то яны ў роўнай ступені валодаюць аўтарскім правам на свае творы. Калі толькі гэтыя творы не былі скапіраваны з нейкай іншай работы, аўтарскае права на якую ўжо было заяўлена.

Навізна або мастацкая вартасць твора не ўплываюць на паняцце арыгінальнасці.

На практыцы крытэры арыгінальнасці і творчасці прымяняюцці вельмі рэдка. Акрамя таго, яны не дазваляюць скласці ўражанне аб тым, што з'яўляецца аб'ектам аўтарска-прававой аховы.

## ШТО КАНКРЭТНА АХОЎВАЕЦЦА АЎТАРСКІМ ПРАВАМ?

Закон размяжоўвае правы аўтара твора і правы ўладальніка фізічнага аб'екта — кнігі, плыткі, карціны.

Кніга і аўтарскае права на яе — не адно і тое ж.

Калі аўтар прадае сваю кнігу, то аўтарскія правы (напрыклад, выключнае маёмаснае права) на яе пераходзяць пакупніку пры падпісанні адпаведнай дамовы. Суб'ект можа зрабіць копію кнігі пры дапамозе спецыяльнай тэхнікі і карыстацца ёю для асабістых мэтаў, але не мае права рабіць копіі такой кнігі дзеля продажу.



Паколькі твор з'яўляецца выражэннем вызначанага ходу думак, аўтару даецца права самому вырашаць пытанне аб ягоным апублікаванні. Толькі аўтар мае права памножыць твор, прадаць копіі або перадаць такое права іншым.

Таму ў дачыненні да літаратурных твораў Закон на вядомы час прадастаўляе аўтарам вызначаныя выключныя правы. Яны дазваляюць аўтару атрымліваць частку адлічэнняў ад любога прыбытку, які прыносіць выкарыстанне твора.

Паколькі правы выключныя, то любое выкарыстанне твора патрабуе папярэдняй згоды іх уладальніка. Аднак нават выключныя правы могуць быць абмежаваныя Законам, каб знайсці правільныя суадносіны паміж інтарэсамі аўтара і грамадскімі інтарэсамі.

## ЯКІЯ СУАДНОСІНЫ АЎТАРСКАГА ПРАВА І ТЭХНІЧНАГА ПРАГРЭСУ?

Аўтарскае права адлюстроўвае эвалюцыю тэхнічных сродкаў распаўсюду твораў і, адпаведна, можа ўплываць на працэс іх выкарыстання. Кожны новы сродак адкрывае дадатковыя магчымасці для творчага самавыражэння, а таксама для выкарыстання твораў. Працэс зменаў заканадаўства па аўтарскім праве з улікам адпаведных тэхнічных навінак адбываецца пастаянна і ў шматлікіх выпадках залежыць ад ініцыятывы саміх аўтараў.

Існаванне і выкарыстанне аўтарскіх твораў у інтэрнэце, а таксама распаўсюд электронных кніг — найбольш актуальныя на сённяшні дзень у Беларусі пытанні.




*Малюнак 1. Святкаванне 450-годдзя беларускага кнігадрукавання, Полацк, 17 чэрвеня 1967 года, vk.com/bel_hist*




# 2. МАРАЛЬНЫЯ ПРАВЫ АЎТАРА

## ЦІ МОЖНА АДНЕСЦІ ПРАВЫ АЎТАРАЎ ДА АСНОЎНЫХ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА?

Аўтарскае права заснаванае на ідэі пра неабходнасць мець адкрыты доступ да атрымання і накаплення ведаў, а таксама на абавязку ўзнагароджваць тых, хто здабывае гэтыя веды.

Аўтарскія правы аднесены да асноўных правоў чалавека, што замацавана ва **Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека**, прынятай Генеральнай Асамблеяй ААН у 1948 годзе (артыкул 27):

*“Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцці грамадства, цешыцца мастацтвам, удзельнічаць у навуковым прагрэсе і карыстацца яго дабротамі.*

*Кожны чалавек мае права на ахову яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў, што з'яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных або мастацкіх прац, аўтарам якіх ён з'яўляецца”.*



## ШТО ТАКОЕ “МАРАЛЬНЫЯ ПРАВЫ”?

Паколькі твор з'яўляецца адлюстраваннем асобы аўтара, то аўтарскія правы відавочна валодаюць большай каштоўнасцю, чым матэрыяльная ўласнасць.

Такую катэгорыю немаёмасных інтарэсаў называюць маральнымі правамі. Яны ўключаюць пытанні апублікавання твора, права на ягоную недатыкальнасць і цэласнасць.

І маральныя (немаёмасныя), і маёмасныя правы аўтара аднолькава ахоўваюцца заканадаўствам.

Маральныя правы пералічаны ў якасці нематэрыяльных правоў у *Законе.*

## ЦІ МАЕ АЎТАР ПРАВА НА ЗАХАВАННЕ ЎЛАСНАГА ТВОРА Ў ТАЯМНІЦЫ?

Асноўнае правамоцтва аўтара — права дазваляць выданне або апублікаванне твора разнастайнымі спосабамі. Ён можа захоўваць твор у таямніцы, пакуль не вырашыць апублікаваць яго, не вызначыць умовы і спосабы такога апублікавання.

Менавіта таму права на апублікаванне з'яўляецца базавым для ўсіх іншых правамоцтваў аўтара.

У беларускім *Законе* аб аўтарскім праве (*абзац 4 артыкул 15 Закона*) дадзенае ўніверсальнае маральнае права абазначана як “***права на абнародаванне***” — г.зн. права аўтара абнародаваць твор у любой яго форме.

## ШТО АЗНАЧАЕ ПРАВА НА ІМЯ?

Права патрабаваць прызнання сябе аўтарам (у выпадку плагіяту), права звязваць ці не твор з уласным іменем (выбар паміж уласным іменем, псеўданімам ці ананімнасцю).



дзяржбанку БССР на пабудову помнIка вялIкаму сыну беларускага народа, рэвалюцыянеру-дэмакрату Кастусю КАЛIНОУСКАМУ.

Дый, урэшце-рэшт, ёсць жа у мяне I чалавечая годнасць!

У тым жа развIтальным лIсце да чытачоу чорным па белым напIсана, што мае Iмя I прозвIшча: ФранцIшак Вядзьмак-ЛысагорскI.

А "Вожык" у сваIм выданнI зусIм апусцIу мае Iмя, адвольна утварыушы яго з першай паловы майго прозвIшча.

Адкрыты лIст "Вожыку" прыкладзены да заявы ПрэзIдыуму саюза пIсьменнIкау БССР з просьбаю перадаць яго для друку у рэдакцыю "ЛIМа".

Прашу Вас, паважаны Яуген IванавIч, звярнуць увагу на маю просьбу I не даць у крыуду калегу па працы.

Загадзя удзячны Вам, з глыбокай павагаю

ФранцIшак Вядзьмак-ЛысагорскI.

ПакылькI у мэтах канспIрацыI я па-ранейшаму не магу паставIць свой уласнаручны подпIс, прашу лIчыць Iм шрыфт гэтай машынкI I другI экземпляр заявы ПрэзIдыуму саюза пIсьменнIкау БССР, а таксама Беларускаму аддзяленню усесаюзнага агенцтва па аутарскIх правах I адкрытага лIста "Вожыку", якIя замест дакументау, на выпадак узбуджэння судовай справы па усIх выдавецкIх I ганарарных пытаннях, што могуць узнIкнуць у далейшым, здаю на захаванне у сейф ламбарда.

ФранцIшак Вядзьмак-ЛысагорскI.

8 красавIка 1989 года.

*Малюнак 2. Узор абароны права на імя ад аўтара пад псеўданімам Ф. Вядзьмак-Лысагорскі*



## ЦІ МАЕ ПРАВА АЎТАР РАСПАРАДЖАЦЦА ТВОРАМ ПАСЛЯ ЯГОНАГА АПУБЛІКАВАННЯ?

Бываюць выпадкі, калі пасля абнародавання (са згоды аўтара) твора погляды самога аўтара кардынальна мяняюцца, і апублікаваны твор больш не адпавядае яго творчым поглядам. У гэтым выпадку беларускае заканадаўства надае аўтару права на адкліканне твора (*абз. 5 арт. 15 Закона*).

Пры рэалізацыі дадзенага права на аўтара ўскладаюцца абавязкі публічнага апавяшчэння аб адкліканні, а таксама ўзмяшчэння карыстальнікам (напрыклад, выдавецтву) нанесеных стратаў, вымання асобнікаў твора з грамадскага звароту за ўласны кошт.

## ЦІ МАЕ АЎТАР ПРАВА НА АХОВУ ЦЭЛАСНАСЦІ СВАЙГО ТВОРА?

Паколькі творчасць аўтара шчыльна звязана з ягонай асобай і рэпутацыяй, ён зацікаўлены ў валоданні правам перашкаджаць любому скажэнню яго твора, перапрацоўцы і дэфармацыі твора, любым дзеянням, якія могуць нанесці шкоду ягонай рэпутацыі і добраму імю.

Дадзенае маральнае права замацавана ў *абзацы 3 артыкула 15 Закона*.

Дзеянне гэтага права можа абмяжоўвацца толькі тады, калі гаворка вядзецца пра службовыя творы аўтара.

## ЯКІЯ ТЭРМІНЫ ДЗЕЯННЯ МАРАЛЬНЫХ ПРАВОЎ АЎТАРА?

Звычайна аўтары захоўваюць маральныя правы, нават калі маёмасныя правы пераходзяць да правакарыстальнікаў. З даўніх часоў, ажно з традыцый рымскага права, дзейнічае агульнае правіла: маральныя правы з'яўляюцца вечнымі і неад'емнымі.

Па беларускім заканадаўстве любыя захады па перадачы маральных (асабістых немаёмасных) правоў не маюць юрыдычнай сілы.



# 3. МАЁМАСНЫЯ ПРАВЫ АЎТАРА

## ШТО ТАКОЕ МАЁМАСНЫЯ ПРАВЫ?

У агульным сэнсе гэта правы, якія забяспечваюць аўтару ганарар за творчую працу. І гэта лічыцца платай за само права. Ва ўсім свеце прызнаны прынцып:

*“Аўтару належыць разумная доля даходаў ад публікацыі ягоных твораў”.*



## ЯКАЯ ПРЫРОДА МАЁМАСНЫХ ПРАВОЎ?

Заканадаўства аб аўтарскім праве прадугледжвае шчыльную ўзаемасувязь паміж немаёмаснымі і маёмаснымі інтарэсамі аўтара. Сам падзел на маральныя і маёмасныя правы аўтара досыць умоўны, бо дадзеныя правы могуць перасякацца (напрыклад, права на першае выданне твора).

Маёмасныя правы ўключаюць пералік разнастайных відаў выкарыстання твораў — *артыкул 16 Закона* і прадугледжваюць выключнасць такіх правоў.

Аўтар мае прэрагатыву дазваляць кожнае новае выкарыстанне твора.

Тэрмін *copyright* узнік, калі капіяванне было практычна адзіным спосабам атрымання матэрыяльнай выгады ад выкарыстання твора. Гэты ж тэрмін стаў ужывацца ў якасці азначэння аўтарскага права.

Але на сённяшні момант ён не адлюстроўвае ўсяго аб'ёму паўнамоцтваў аўтара і не адпавядае ўзроўню тэхнічнага прагрэсу грамадства.

Сучасны комплекс маёмасных правоў заклікаы знайсці годны спосаб заахвочвання літаратурнай працы пры ўмове прадухілення небяспекі звужэння распаўсюду такіх твораў з-за выканання законных інтарэсаў аўтара.

## ЯКІЯ АСНОЎНЫЯ МАЁМАСНЫЯ ПРАВЫ БЕЛАРУСКАГА АЎТАРА?

Аўтар валодае выключным правам дазваляць вызначаныя дзеянні ў адносінах да твора, якія можна падзяліць на дзве асноўныя катэгорыі:

а) права на ўзнаўленне і

б) права на апублікаванне.

Але спосабаў выкарыстання нашмат больш, і замацаваны яны ў *артыкуле 16 Закона*:

- узнаўленне твора;
- распаўсюджанне арыгінала або асобнікаў твора пры продажы ці іншай перадачы права ўласнасці;
- пракат арыгінала або асобнікаў твора;
- імпарт асобнікаў твора, уключаючы асобнікі, выпрацаваныя з дазволу аўтара ці іншага праваўладальніка;
- публічны паказ арыгінала або асобнікаў твора;

- публічнае выкананне твора;

- перадача твора ў эфір;

- перадача твора па кабелі;

- іншае прадстаўленне твора да ўсеагульнай увагі;

- пераклад твора на іншую мову;- перапрацоўка твора для напісання вытворнага ад яго;

- іншыя магчымыя спосабы выкарыстання твора.

Такім чынам, спіс з'яўляецца адкрытым і аўтар можа ўводзіць ва ўжытак іншыя адвольныя спосабы выкарыстання твора і, адпаведна, дазваляць іх карыстальнікам.

## ШТО ТАКОЕ ПРАВА НА ЎЗНАЎЛЕННЕ?

Відавочна, што самым галоўным правам аўтара з'яўляецца прэрагатыва аўтара дазваляць выраб асобнікаў свайго твора.

Узнаўленне прадугледжвае наяўнасць многіх асобных правамоцтваў, якія вынікаюць са спосабаў выкарыстання твора (друк, захаванне электроннай копіі на перанасных носьбітах, выраб фотаздымкаў, кінафільмаў, інш.).

Права на паведамленне зместу або першую публікацыю твора — асноўнае маральнае права аўтара, і яно шчыльна звязана з правам на ўзнаўленне. Калі аўтар дазваляе яго, ён узгадняе ўмовы выдання асобнікаў свайго твора.

*Закон у абзацы 4 артыкула 4* тлумачыць "узнаўленне" як выраб, у тым ліку стварэнне накладу **аднаго ці больш** асобнікаў твора аўтара **ў любой аб'ектыўнай форме** (у тым ліку адрознай ад той, у якой існуе арыгінал), уключна на пастаяннае ці часовае **захаванне ў лічбавай або іншай форме** ў электронным сродку ці на іншым матэрыяльным носьбіце.

## ШТО ТАКОЕ РАСПАЎСЮД ТВОРА?

Права на ўзнаўленне звычайна вядзе за сабой і права на распаўсюд. Яны могуць ахоўвацца разам ці асобна.

Часам лічыцца, што права на ўзнаўленне прадугледжвае аўтаматычна і права на распаўсюд. Аднак такі панятак з'яўляецца асобна агаворваемай катэгорыяй, паводле якой аўтар асобна ўказвае памер накладу, цану і геаграфічны рэгіён распаўсюду твора.

Спасылка на распаўсюд канкрэтнымі спосабамі можа быць карыснай аўтару ў сувязі з развіццём тэхнічных сродкаў. Напрыклад, калі літаратурныя творы зачытваюцца ў прамым эфіры кабельнага тэлебачання Беларусі.



Аднак калі асобнікі твораў, напрыклад, набытыя ў выдавецтва, якое не парушала аўтарскіх правоў і выдала творы на падставе аўтарскага ўзнагароджання, то гэтыя асобнікі могуць распаўсюджвацца (прадавацца) без выканання маёмасных правоў аўтара, паколькі такія творы лічацца правамерна ўведзенымі ў грамадзянскі зварот *(абзац 2 пункт 2 артыкула 16 Закона)*.

## ШТО ТАКОЕ ПРАВА НА АПУБЛІКАВАННЕ?

Такое права прадугледжвае з'яўленне твора ў грамадскім месцы, а не ў коле сяброў, знаёмых, ці публічнае азнаямленне з творам.

Для аўтараў некаторых відаў твораў права на апублікаванне з'яўляецца асноўным: літаратурныя і драматычныя творы, музычныя сачыненні, творы выяўленчага мастацтва, аўдыявізуальныя творы.

*Закон у абзацы 12 артыкула 4* замацоўвае *"апублікаванне"* як **прапанову публіцы** са згоды аўтара ці іншага праваўладальніка асобнікаў твора ў колькасці, якая задавальняе **разумныя патрэбы публікі**, шляхам продажу, пракату ці іншай перадачы права ўласнасці або права валодання асобнікам твора.



# 4. АХОЎВАЕМЫЯ ТВОРЫ

## ШТО АХОЎВАЕ АЎТАРСКАЕ ПРАВА

У першую чаргу аўтарскае права заклікана абараняць правы аўтараў. Практычна гэта азначае абарону іх твораў, а менавіта матэрыяльнай формы твораў.

Агульнае правіла заключаецца ў тым, што ахоўваюцца формы выражэння ідэй аўтара, аднак не сама ідэя.

Другое, што прыходзіць на думку — твор. Але ў самім *Законе* панятак *"твор"* адсутнічае. Гэта выклікана тым, што гэта вельмі шматпланавая з'ява. Яе межы можна вызначыць праз патрабаванні *Закона* аб аб'ектыўнай форме твора, а таксама ўказанне на аб'екты, якія не могуць атрымаць аўтарска-прававой аховы.



## ЯКІЯ КРЫТЭРЫ ЎЛІЧВАЮЦЦА ДЛЯ ПРАДАСТАЎЛЕННЯ АЎТАРСКА-ПРАВАВОЙ АХОВЫ?

*Артыкул 6 Закона* ўтрымлівае дзве асноўныя ўмовы-прынцыпы для вызначэння аўтарскага твора, якія павінны выконвацца адначасова.

*Першы прынцып:* твор літаратуры, навукі, мастацтва павінен валодаць вызначанай якасцю, а менавіта быць вынікам творчай дзейнасці. Але самога панятку *творчасці ў Законе* няма, што абцяжарвае правапрымальную практыку і прыводзіць да таго, што кампетэнцыя вызначэння ўтрымання складніка творчасці ў творы належыць выключна суду, але не аўтару.

*Другі прынцып:* творы, якія адпавядаюць першаму прынцыпу, ахоўваюцца незалежна ад прызначэння і годнасці, а таксама спосабу іх выражэння. Якасць, навізна, і майстэрства, і нават арыгінальнасць у дадзеным выпадку значэння не маюць. Аднолькава ахоўваюцца кніга рэцэптаў і філасофскі трактат. Творы апублікаваныя і ў пісьмовай, і ў вуснай формах таксама ахоўваюцца аўтарскім правам.

Цікава, што назва твора і асобныя ягоныя часткі таксама могуць прызнавацца асобнымі творамі ў межах *артыкула 6 Закона*, пры ўмове што і яны адпавядаюць вышэйназваным прынцыпам.

*Артыкул 6 Закона* дае адкрыты **пералік аўтарскіх твораў** (аб'ектаў аўтарскага права):

- літаратурныя творы (кнігі, брашуры, артыкулы і інш.);
- драматычныя і музычна-драматычныя творы, творы харэаграфіі і пантамімы і іншыя сцэнарныя творы;
- музычныя творы з тэкстам і без тэксту;
- аўдыявізуальныя творы (кіна-, тэле-, відэафільмы, дыяфільмы і інш.);
- творы выяўленчага мастацтва (скульптура, жывапіс, графіка, літаграфія і інш.);
- творы прыкладнога мастацтва і дызайну;
- творы архітэктуры, горадабудаўніцтва і садова-паркавага мастацтва;
- фатаграфічныя творы, у тым ліку творы, атрыманыя спосабамі, аналагічнымі фатаграфіі;
- карты, планы, эскізы, ілюстрацыі і пластычныя творы, якія адносяцца да геаграфіі, картаграфіі і іншых навук;
- камп'ютарныя праграмы;
- творы навукі (манаграфіі, артыкулы, справаздачы, навуковыя лекцыі і даклады, дысертацыі, канструктарская дакументацыя і інш.);
- іншыя творы.

# ЯК АХОЎВАЮЦЦА ВЫТВОРНЫЯ ТВОРЫ?

У наш час, на перасячэнні постмадэрну і мадэрніці, назіраецца цікавы парадокс: замест кардынальна новага і дагэтуль не вядомага з'яўляюцца творы, вытворныя ад арыгінальных, напісаных раней.

Колькасць такіх вытворных твораў значна перавышае арыгінальныя першакрыніцы. Але і яны таксама абараняюцца *Законам*, як і арыгінальныя творы, паколькі для іх стварэння патрабуюцца спецыяльныя веды і пэўныя творчыя высілкі.

Прынамсі, **вытворны твор**, паводле *абзаца 20 артыкула 4 Закона*, азначае пераклад ці іншую перапрацоўку твора, якія з'яўляюцца вынікам творчай працы, у тым ліку апрацоўка, агляд, пераказ, анатацыя, рэзюмэ, інсцэніроўка, музычная аранжыроўка.

Важна памятаць, што аўтарскае права належыць аўтарам вытворных твораў **толькі пры ўмове выканання правоў** аўтара арыгінальнага твора, які быў перароблены *(артыкул 10 Закона)*.

Для выдання вытворнага твора патрабуецца згода не толькі яго аўтара, але і аўтараў твораў, выкарыстаных для яго стварэння.

Аўтарскае права стваральніка вытворнага твора не перашкаджае іншым выконваць свае перапрацоўкі арыгінальнага твора. Так, напрыклад, жадаючы перакласці твор на выбраную мову павінен звяртацца да аўтара арыгінальнага твора ці ягонага прадстаўніка (спадкаемцы, агенцтва, выдавецтва), а не да аўтараў ужо наяўных перакладаў.

Заўважым, што панятак "адаптацыя", як і тэрмін "пераклад", якія падыходзяць для фармалізацыі стварэння вытворных твораў, у *Законе* адсутнічаюць. Звычайна пад адаптацыяй разумеюць музычныя аранжыроўкі, інсцэніроўкі, сцэнары экранізацый, гуказапісу, копіі твораў мастацтва і рэфераты — творы, напісаныя на "фундаменце" арыгінальнага твора. *Закон* толькі аднойчы ўзгадвае *адаптацыю* ў кантэксце стварэння службовых твораў, калі наймальнік можа ўносіць *"змены, скарачэнні і дапаўненні, выкліканыя неабходнасцю адаптацыі твора да пэўных умоў яго выкарыстання"*.

Калі мы зробім спробу лагічна вывесці з тэксту *Закона* тэрмін "пераклад", то таксама выканаем адаптацыю тэксту *Закона*. Паспрабуем...

# ШТО ТАКОЕ ПЕРАКЛАД?

Пераклад грунтуецца на арыгінальным творы, але адрозніваецца ад адаптацыі тым, што мэта яго — як мага дакладней перадаць тэкст арыгіналу на замежнай мове.

Для выканання гэтай задачы патрабуюцца спецыяльныя навыкі, веданне не толькі дзвюх ужываных моваў, але і самога прадмета перакладу.



# ЦІ ПАДЛЯГАЮЦЬ АХОВЕ ЗБОРНІКІ?

Зборнікі аднесены *Законам (абзац 30 артыкул 4 Закона)* да панятку "складальны твор". Акрамя іх у гэтую катэгорыю ўключаны энцыклапедыі, анталогіі, базы дадзеных, газеты, часопісы, іншыя творы, якія ўяўляюць сабой паводле падбору ці размяшчэння матэрыялаў вынікі творчай працы.

Складальныя творы ўключаюць спецыяльна падабраныя пэўным чынам і для пэўнай мэты творы розных аўтараў (двух і больш). Тым самым складаюцца новыя творы, напрыклад, анталогія вершаў ці апавяданняў.

У гэтых выпадках анталогія або энцыклапедыя (калі яны складзеныя з ужо апублікаваных работ) лічацца самастойнымі творамі пры ўмове, што падборка і размяшчэнне матэрыялу ў іх з'яўляюцца вынікам творчай працы, а ўкладальнік прытрымліваўся правоў аўтараў, чые творы былі ўключаны ў складальны твор *(артыкул 11 Закона)*.

# ЦІ НЕАБХОДНА ПРАВЯДЗЕННЕ АСОБНЫХ ФАРМАЛЬНАСЦЯЎ ДЛЯ ЗАЦВЯРДЖЭННЯ ЎЛАСНАГА АЎТАРСКАГА ПРАВА НА ТВОР?

У шэрагу краін аўтарскае права можа быць звязана з выкананнем некаторых фармальнасцяў — такіх, як дэпанаванне ахоўваемых твораў, рэгістрацыя, прастаўленне знакаў аховы.

У адпаведнасці з агульнай тэорыяй аўтарскага права, ахова правоў аўтараў не павінна залежаць ад выканання якіх-небудзь працэсуальных дзеянняў і аўтаматычна ўзнікае ў выніку творчага акту.

У Беларусі аўтарскае права ўзнікае ў той самы момант, як твор з'яўляецца на свет. Заканадаўства не прадугледжвае праходжанне спецыяльных фармальнасцяў. Нават калі твор не публікуецца, ён усё

Цікава, што ў 1935 годзе беларускім аўтарам раілі пры перадрукоўванні свайго твора ўжываць капіравальную паперу, якая дазваляла пакідаць адзін асобнік твора сабе.

У нашыя часы добраахвотная рэгістрацыя аўтарскага права застаецца актуальнай з пункту гледжання будучай судовай абароны такіх правоў. Такая рэгістрацыя ў Беларусі існавала раней. Прыклад запаўнення дакументаў на яе прыведзены на малюнках 3-5. Аб магчымасці правядзення падобнай ці іншай працэдуры ў індывідуальным парадку аўтар можа дазнавацца ў дзяржаўнай установе "Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці" (Мінск, Беларусь).



Комитет по авторским и смежным правам
при Министерства юстиции Республики Беларусь

220004, г. Минск, ул. Кальварийская, 1
тел. (0172) 23-12-36, факс (072) 76-91-42
р/с 3041000000010, код 287, филиал 521

**Форма "ЛП"**
(Литературные, научные, учебные и др. произведения)

Входящий №________ "__"________199__ г.

Дата регистрации: 30 апреля 1997

№ официальной регистрации: 260

**З А Я В Л Е Н И Е**
**на официальную регистрацию произведения**

1. СВЕДЕНИЯ О ПРОИЗВЕДЕНИИ
- название на белорусском или русском языке: „Дятел" (рассказ)
- название на английском языке: ________
- название составного произведения на белорусском или русском и английском языках: ________
- выпуск в свет составного произведения: "__"________" 199___года
- год завершения произведения: 1997 г.
- дата первого выпуска произведения "__"________" 199___года
- страна, в которой произведение впервые выпущено в свет: Республика Беларусь
- произведение опубликовано ( анонимно [ ] под псевдонимом [ ] ) в: ________

2. СВЕДЕНИЯ ОБ АВТОРАХ :
- фамилия, имя и отчество (псевдоним) на белорусском или русском и английском языках: Трачекко Виктор Николаевич
- время жизни : 1939 - 19___ г.;
- гражданство : ________
- авторский вклад в произведение:
  - а) в порядке выполнения служебного задания : [ ] да [ ] нет;
  - б) краткое описание: ________

- фамилия, имя и отчество (псевдоним) на белорусском или русском и английском языках: ________
- время жизни : 19___ - 19___ г.;
- гражданство : ________
- авторский вклад в произведение:
  - а) в порядке выполнения служебного задания : [ ] да [ ] нет ;
  - б) краткое описание: ________

- фамилия, имя и отчество ( псевдоним ) на белорусском или русском и английском языках: ________
- время жизни : 19___ - 19___ г.;
- гражданство : ________
- авторский вклад в произведение:
  - а) в порядке выполнения служебного задания : [ ] да [ ] нет;
  - б) краткое описание: ________

*Малюнак 3. Узор заявы на добраахвотную рэгістрацыю аўтарскага твора ў Беларусі, 90-ыя гг. ХХ ст. (аркуш 1)*





3. ОСНОВАНИЯ ВОЗНИКНОВЕНИЯ ПРАВ НА ДАННОЕ ПРОИЗВЕДЕНИЕ
- [V] заявитель является автором;
- [ ] заявитель является работодателем автора;
- [ ] другое

4. СВЕДЕНИЯ О ПРЕДЫДУЩЕЙ РЕГИСТРАЦИИ
- номер ________;
- дата нет.

5. СВЕДЕНИЯ О ВСЕХ ОБЪЕКТАХ АВТОРСКОГО ПРАВА, ИСПОЛЬЗОВАННЫХ ПРИ СОЗДАНИИ ДАННОГО ПРОИЗВЕДЕНИЯ ________

6. СВЕДЕНИЯ О СОДЕРЖАЩИХСЯ В ЗАЯВКЕ ДОКУМЕНТАХ
- [ ] документ, подтверждающий уплату регистрационного сбора;
- [ ] доверенность или иные документы, подтверждающие полномочия представителя правообладателя.

7. РЕФЕРАТ ПРОИЗВЕДЕНИЯ

Рассказ „Дятел" повествует о непростой, за[...] тайной и жестокой судьбе героя, Ивана Левченк[...] обстоятельства дважды толкают его на убийство [...] дважды он идёт на него. Не осознанно, не думая о [...] ствиях, находясь в плену своих эмоций и страстей, н[...] Теряя самого близкого и дорогого человека - мать теряет и опору духовную.

8. СВЕДЕНИЯ ОБ АДРЕСАТЕ ДЛЯ ВЕДЕНИЯ КОРРЕСПОНДЕНЦИИ ПО ЗАЯВКЕ
- фамилия, имя, отчество: ________
- телефон, включая международный код: ________
- адрес, включая почтовый индекс: ________

9. СВИДЕТЕЛЬСТВО ЗАЯВИТЕЛЯ:

*Я, нижеподписавшийся, настоящим подтверждаю, что указанные в настоящем заявлении сведения, а также:*
- фамилия, имя, отчество: Трачинко Виктор Николаевич
- телефон, включая международный код: 94-61-60
- адрес, включая почтовый индекс: 223070 п. Михановичи ул. Привокзаль[ная] д. 1 кв. 4
- полное наименование организации: ________

*являются верными.*

*Дата:* 30 апреля 1997 г. *Подпись:* [подпись] (Трачекко)

*Малюнак 4. Узор заявы на добраахвотную рэгістрацыю аўтарскага твора ў Беларусі, 90-ыя гг. ХХ ст. (аркуш 2)*


10
I.

Фамилия его была Левченко. И.Д. Левченко было написано у него на грудной бирке, пришитой накрепко к чёрной застиранной робе. Иван Дмитриевич Левченко, 1960 года рождения, русский, осуж - ден к 13 годам лишения свободы, было написано в его карточке, зачитываемой контролёрами вот уже почти двенадцать лет, два раза в день утром и вечером на проверках. Но это официально, а неофициально все его называли "Дятел", и менты и зэки.

Внешним видом он дятла никак не напоминал, даже отдалённо, скорее на клоуна был похож. У него была большая голова с маленькими оттопыренными ушами и приплюснутым маленьким носом. При ходьбе она покачивалась на тонкой детской шее из стороны в сторону, и это было смешно. Его широкие, крутые плечи никак не подходили к длинным худым рукам и таким же худым, с остры - ми коленками, ногам. И это тоже со стороны выглядело смешно. Но вот приклеилось почему-то именно "Дятел".

Ваня Левченко на "Дятла" никак не реагировал. Он просто молчал и ни с кем не общался. И ему отвечали тем же, вроде есть он, а вроде и нет его. Молчит и молчит, и чёрт с ним. Да и побаивались цеплять его, все знали, что он получил срок за то, что кому-то там хотел раскроить череп чугунной крышкой от бачка унитаза. Или знай, что у такого молчуна в голове, зацепи его а он тебя по голове чем-нибудь - тюк и... Спасались его конечно.

Единственный человек, с кем у Дятла завязались отношения в зоне, был живший при котельной, глухонемой старик по кличке "Рыба". Очень ему нравилось пить с Рыбой чай по воскресеньям. У Дятла никогда ничего не было, он жил в проголодь и ходил в заплатанных штанах, но каждое воскресенье он пил чай с сахаром и сладкими сухарями. Готовился он к этому чаепитию всю неделю, с понедельника. Приходя по вечерам с работы, он нарезал остатки положенного ему хлеба на маленькие кусочки, разводил в жестяной банке из-под кильки воду с дневной порцией сахара и обмакнув в неё нарезанные кусочки, раскладывал их сушиться на белую льняную тряпицу на подоконник. Затем, бережно ссыпал остатки сахара в маленькую коробочку из-под зубного порошка, и только после этого укладывался спать. И так всю неделю, изо дня в день. Иногда, если было настроение, Дятел садился играть в шашки. Но каким бы хорошим его настроение ни было, играл он всегда только сам с собой.

*Малюнак 5. Узор заявы на добраахвотную рэгістрацыю аўтарскага твора ў Беларусі, 90-ыя гг. XX ст. (аркуш 3)*



Што датычыцца сябраў ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", то адпаведныя фармальнасці ў 2015 годзе сярод іх размеркаваліся наступным чынам:

**Якім чынам нашыя аўтары ахоўваюць свае аўтарскія правы на твор тэкст?**
(межах заканадаўства)




Пераважная большасць аўтараў маюць рукапіс (друкапіс) на руках і спецыяльныя меры не прымаюць. Некалькі чалавек даслалі самі сабе арыгінал рукапісу / друкапісу па пошце пакетам ці праз электронную пошту, захоўваюць атрыманы пакет нераспакаваным да моманту ўзнікнення спрэчнай сітуацыі.

6% рэспандэнтаў прымаюць іншыя меры барацьбы з мажлівым неЗаконным выкарыстаннем твораў:

- прадугледзелі дадатковыя меры абароны ў дамове з канкрэтным выдавецтвам;

- заключылі дамову з дзяржаўнай установай "Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці".

Дадзеная ўстанова ў адпаведнасці з заканадаўствам ажыццяўляе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь калектыўнае кіраванне маёмаснымі правамі аўтараў ды іншых праваўладальнікаў у выпадках, калі іх цяжка ажыццяўляць у індывідуальным парадку. Падобная ўстанова па калектыўным кіраванні можа быць адкрыта і па ініцыятыве сябраў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

# ШТО ТАКОЕ ЗНАК АХОВЫ АЎТАРСКАГА ПРАВА?

Аўтарска-прававымі законамі большасці дзяржаў, у тым ліку Беларусі, усталявана, што ўсе асобнікі твора павінны забяспечвацца якой-небудзь пазнакай з мэтай інфармавання публікі аб праве дадзенага твору на ахову. Пазнака павінна быць выразнай, прастаўляцца ў прыкметным месцы (тытульным аркушы ці наступным за ім).

У Беларусі, каб пазначыць, каму належаць правы на твор, на кожным асобніку пішацца лацінская літара "С" (першая літара ад "copyright"), імя або назва праваўладальніка і год першай публікацыі *(пункт 4 артыкул 16 Закона)*. Такая структура адпавядае стандарту, прынятаму на міжнародным узроўні і прадугледжанаму ў тэксце *Сусветнай канвенцыі аб аўтарскім праве*.

# У ЧЫМ ПЕРАВАГІ ЗНАКА АХОВЫ?

Пазначэнне на творы дадзеных, якія сведчаць пра час яго стварэння або публікацыі, не складае для аўтара цяжкасцяў і дае яму відавочныя перавагі. Гэтыя звесткі паказваюць усім зацікаўленым асобам, што правы на твор ахоўваюцца. У межах унутранай судовай сістэмы ўладальніку аўтарскіх правоў будзе не цяжка даказаць, што трэцяя асоба парушыла яго аўтарскія правы, дзейнічала свядома неправамерна, паколькі ведала аб іх ахове.

Прызнаны ва ўсім свеце сімвал аховы мае вялікае значэнне, паколькі ахоўваемыя творы лёгка перасякаюць нацыянальныя межы і распаўсюджваюцца па ўсім свеце.

Правы беларускіх аўтараў за мяжой абараняюцца на аснове палажэнняў міжнародных канвенцый.

# ЯКІЯ АСАБЛІВАСЦІ ВЫКАРЫСТАННЯ ТВОРАЎ У ІНТЭРНЭЦЕ?

Інтэрнэт, у сілу сваёй спецыфікі, стаўся прасторай, у якой заканадаўства аб аўтарскім праве парушаецца ў масавым парадку.

Тым не менш, выкарыстанне твораў у сеціве нічым не адрозніваецца ад іх звычайнага выкарыстання.

Неабходна памятаць, што пры размяшчэнні аўтарскіх твораў у інтэрнэце неабходна ўкладанне з аўтарамі аўтарскіх дамоваў аб выкарыстанні твораў шляхам давядзення твора да ўсеагульнага ведама ў сетцы інтэрнэт, лакальных і іншых сетках.



Пры гэтым, адвольны вэбсайт, які некаторыя тэарэтыкі адносяць да "мультымедыйных твораў", — гэта заўсёды кампіляцыя некалькіх твораў: як мінімум камп'ютарнай праграмы, якая забяспечвае ягонае функцыянаванне, а таксама змесу сайта (кантэнту), які ўключае мастацкія, музычныя і літаратурныя творы. У стварэнні цікавага і добра працуючага сайта звычайна ўдзельнічаюць праграміст, дызайнер, аўтар тэкстаў.

Аўтарскі твор, напрыклад, кніга, пераведзеная ў лічбавую форму, не становіцца асобным творам. Гэта два спосабы (выключныя маёмасныя аўтарскія правы) аўтара, якія яму належаць у адносінах да ўласнага твора:

— **кніга ў друкаваным выглядзе** — права на ўзнаўленне шляхам стварэння асобніка твора,

— **кніга ў электронным выглядзе** — права на давядзенне твора да ўсеагульнага ведама.

У аўтара неабходна атрымаць згоду на падобнае выкарыстанне.



# 5. МЕЖЫ АХОВЫ АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ

## ЦІ ІСНУЮЦЬ МЕЖЫ АЎТАРСКА-ПРАВАВОЙ АХОВЫ?

Аўтарскія правы могуць абмяжоўвацца ў інтарэсах грамадства, пра якія ўжо гаварылася, а менавіта для спрашчэння доступу да ведаў і адкрытага распаўсюджання інфармацыі пра падзеі ў свеце.

Паколькі толькі аўтар твора мае права вырашаць пытанне аб яго апублікаванні, выключэнняў з правілаў аховы для неапублікаваных работ не існуе. Але калі твор **ужо выдадзены або апублікаваны іншым спосабам**, выключныя правы ўладальніка аўтарскіх правоў маюць свае межы. На некаторыя творы аўтарскае права можа нават і не распаўсюджвацца.

У Беларусі, як ва ўсіх іншых краінах, творы, тэрмін аховы якіх скончыўся, становяцца публічным здабыткам *(артыкул 21 Закона)*.

Пры пэўных умовах, замацаваных *Законам*, ахоўваемы твор можа быць выкарыстаны і без згоды аўтара.



Такім чынам, ахова аўтарскіх правоў з'яўляецца абмежаваным **прывілеем** як па аб'ёме правоў, якія прадастаўляюцца, так і па тэрміне аховы.

## ЯК АБМЯЖОЎВАЕЦЦА АХОВА?

Акрамя твораў, якія сталі грамадскім здабыткам у сілу заканчэння тэрміну аўтарска-прававой аховы (жыццё аўтара і 50 год пасля смерці), ёсць яшчэ дзве асноўныя катэгорыі работ, пазбаўленыя аховы ў інтарэсах грамадства. Гэта афіцыйныя акты (у тым ліку нарматыўныя прававыя акты, судовыя пастановы, устаноўчыя дакументы арганізацый), а таксама "навіны дня".

*Закон у артыкуле 7* утрымлівае пералік такіх аб'ектаў для Рэспублікі Беларусь. Акром вышэйназваных, **не з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права**: дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь, творы народнай творчасці, аўтары якіх невядомыя, а таксама ідэі, метады, вынаходніцтвы, факты, нават калі яны выражаны, адлюстраваны, патлумачаны ці ўвасобленыя ў творы.

Аднак у нашы дні разгортваюцца сапраўдныя дыскусіі аб неабходнасці замацавання выключных правоў для твораў фальклору. Традыцыйна яны не ахоўваюцца аўтарскім правам. Разам з тым многія краіны ўводзяць спецыфічны рэжым аховы для такіх аб'ектаў, у першую чаргу, для недапушчэння скажэння нацыянальных культурных здабыткаў.

Дадаткова *Глава 4 Закона* ўводзіць панятак **"свабоднае (вольнае) выкарыстанне аб'екта аўтарскага права"**, якое ўтрымлівае некалькі важных складнікаў, правамоцных пры адначасовым выкананні:

- допускаецца выкарыстанне твора без згоды аўтара,
- без адпаведных выплат аўтару або з выплатай у названых Законам выпадках,
- з выкананнем асабістых немаёмасных правоў аўтара.

Названае абмежаванне было ўсталявана зыходзячы з патрэбы знайсці правільныя суадносіны паміж зацікаўленасцю грамадства ў доступе да дасягненняў навукі і мастацтва і правамі аўтараў.

Такія выпадкі з'яўляюцца адмысловымі выключэннямі з агульнага правіла аб тым, што ніхто, акрамя аўтара, не можа ўзнаўляць, публікаваць або выкарыстоўваць твор іншым адвольным спосабам.

Выключэнні з выключных правоў аўтара матывуюцца не асаблівасцямі зместу твора, а мэтай, якую пераследуе асоба, якая выкарыстоўвае твор без аўтарскай згоды. Менавіта мэта, дзеля якой ажыццяўляецца выданне, капіраванне або прадстаўленне твора шырокай публіцы, апраўдвае абмежаванне выключных правоў таго ж пісьменніка.

Абмежаванні тычацца ў асноўным твораў, якія павінны прадастаўляцца для свабоднага выкарыстання ў грамадстве пры пэўных умовах у адпаведнасці з афіцыйна зацверджанымі мэтамі заахвочвання масавай інфармацыі, крытычных выступаў і адукацыі, арганізацыі доступу да інфармацыі невідушчых асобаў. Абмежаванні тычацца неафіцыйнай і / або некамерцыйнай інфармацыі; копій або рэпрадукцый для асабістага карыстання; цытавання; выкарыстання ў мэтах навучання; архіваў і бібліятэк; помнікаў або твораў, якія знаходзяцца ў грамадскіх месцах.

## ЯК ЗАБЯСПЕЧВАЮЦЦА ІНТАРЭСЫ ПРАВАСУДДЗЯ І КІРАВАННЯ?

Патрэбы правасуддзя, правапрымянення і кіравання ўлічаны ўсімі аўтарска-прававымі законамі.

У цэлым такія афіцыйныя тэксты, як законы, рашэнні судоў і адміністрацыйных органаў, выключаны са сферы аховы. Звычайна творы, якія ахоўваюцца аўтарскім правам, у судзе таксама могуць выкарыстоўвацца без спецыяльнага дазволу праваўладальніка *(пункт 4 артыкула 32 Закона)*.

Дапускаецца ўзнаўленне правамерна апублікаванага твора для мэт судаводства па грамадзянскіх справах, судаводства ў гаспадарчых судах, канстытуцыйнага судаводства, вытворчасці па матэрыялах крымінальнай справы, у межах дзейнасці трацейскага суда, а таксама ў межах адміністрацыйнага працэсу *(пункт 4 артыкула 32 Закона)*.

## ЯКІМ ЧЫНАМ ЗААХВОЧВАЕЦЦА СВАБОДНАЯ ПЕРАДАЧА ІНФАРМАЦЫІ ДЛЯ СМІ?

Пэўныя выключэнні з аўтарска-прававой аховы былі зроблены з мэтай спрасціць распаўсюд інфармацыі ў грамадстве.

Не ахоўваюцца “навіны дня”, якія друкуюцца, публічна паведамляюцца або трансліруюцца. Акрамя таго, *Закон* дазваляе сродкам масавай інфармацыі выкарыстоўваць ахоўваемыя творы ці іх часткі для бягучых паведамленняў *(артыкул 33 Закона)*.

Натуральна, што дазвол аўтара ў такім выпадку не патрабуецца. Але для гэтага патрабуецца правамернасць першаснага апублікавання такіх твораў або размяшчэння такіх твораў у глабальным сеціве інтэрнэт, а таксама адсутнасць спецыяльнай забароны аўтара на такое выкарыстанне.



Аўтарскія творы ці іх часткі могуць быць узноўлены ў складзе аглядаў бягучых падзей у аб'ёме, апраўданым інфармацыйнай мэтай, у друкаваных сродках масавай інфармацыі, перадавацца ў эфір ці па кабелі электроннымі сродкамі масавай інфармацыі, пры ўмове, што яны былі ўбачаны ці пачуты падчас такіх падзей.

## ЯКІЯ ПРАВІЛЫ ЦЫТАВАННЯ?

Права свабоднага цытавання ўстаноўлена амаль усімі нацыянальнымі законамі.

У Беларусі *Закон у пункце 2 артыкула 32* дапускае ўзнаўленне вытрымак з правамерна абнародаваных твораў (цытаванне), як у арыгінале, так і ў перакладзе ў даследчых, адукацыйных, палемічных, крытычных або інфармацыйных мэтах у тым аб'ёме, які апраўданы мэтай цытавання.

Такім чынам, магчымасць цытавання вызначаецца не зместам або прызначэннем твора, а мэтай той асобы, якая хоча выкарыстаць адзін або некалькі ўрыўкаў з канкрэтнага твора.

Цытаты павінны быць падпарадкаваны задуме твора, у якім яны выкарыстоўваюцца, ілюстраваць або акцэнтаваць якое-небудзь месца ў тэксце, спрыяць яго пераканаўчасці, узмацняць яго крытычнае або пазнавальнае значэнне.

Як ужо адзначалася, цытаты могуць утрымліваць таксама бягучую інфармацыю.

У дачыненні да літаратуры агульныя правілы цытавання зводзяцца да наступнага: цытаванне літаратурных твораў павінна ўяўляць сабой невялікія ўрыўкі, якія не замяняюць арыгінала.

## ЦІ ІСНУЮЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ АБМЕЖАВАННІ Ў ІНТАРЭСАХ АДУКАЦЫІ?

Па сутнасці, тут гаворка ідзе аб пашырэнні права на цытаванне.

У галіне адукацыі аўтары і вытворцы навучальных матэрыялаў, а таксама асобы, якія іх выкарыстоўваюць, — студэнты, выкладчыкі, бібліятэкары — часта выходзяць за межы дазволенага выкарыстання ахоўваемых твораў або іх частак.

Асноўная ідэя заключаецца ў тым, што любая асоба мае права вырабляць выключна для асабістага выкарыстання копіі неабходных ёй твораў, не маючы пры гэтым на мэце атрыманне грашовай выгады.

Напрыклад, выраб студэнтам копіі друкаванага матэрыялу для сваіх асабістых даследаванняў або заняткаў з'яўляецца абмежаваным выкарыстаннем твора аўтара ў адукацыйных мэтах.

У адпаведнасці з артыкулам 36 Закона, правамерна апублікаваныя творы могуць быць выкарыстаны з абавязковым указаннем аўтара твора і крыніцы запазычання ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу ў выданнях, радыё- і тэлеперадачах, гука- і відэазапісах адукацыйнага характару ў аб'ёме, апраўданым адукацыйнымі мэтамі.

Артыкулы і іншыя малааб'ёмныя творы, правамерна апублікаваныя ў зборніках, а таксама газетах, часопісах і іншых друкаваных сродках масавай інфармацыі, урыўкі з правамерна апублікаваных літаратурных і іншых твораў могуць быць узноўлены пры дапамозе рэпрадукавання (у тым ліку ксеракапіравання) і іншага ўзнаўлення ў адукацыйных і даследчых мэтах.

## ЦІ ДАЗВАЛЯЕЦЦА КАПІЯВАННЕ ТВОРАЎ БІБЛІЯТЭКАМІ І АРХІВАМІ?

Архівы і бібліятэкі забяспечваюць захаванасць твораў, сабраных у іх, і публічны доступ да такіх твораў для даследчых, агульнаадукацыйных і культурных мэтаў. Фотакапіяванне як складнік рэпрадукавання, вядомае пад тэхнічным тэрмінам *"рэпраграфія"*, дазваляе вырабляць танныя копіі рэдкіх твораў, рукапісаў і дакументаў усіх відаў. Яны могуць пастаянна захоўвацца ў бібліятэках і архівах як даведачныя матэрыялы альбо выдавацца на рукі.

Паколькі архівы, публічныя бібліятэкі, некамерцыйныя інфармацыйныя цэнтры, навуковыя і навучальныя ўстановы ажыццяўляюць важныя для грамадства функцыі, законы ўтрымліваюць спецыяльныя нормы, якія дазваляюць капіяванне гэтым установам. Такое капіяванне, аднак, строга абмежавана. Колькасць асобнікаў можа быць дакладна пазначана, і яны могуць выдавацца толькі асобам, якія давялі неабходнасць гэтых матэрыялаў для іх асабістых заняткаў або даследаванняў. Некаторыя бібліятэкі абмяжоўваюць колькасць старонак твораў, даступных для капіявання.

У адпаведнасці з *пунктам 3 артыкула 37 Закона*, бібліятэкі і архівы могуць ажыццяўляць рэпрадукаванне і іншае ўзнаўленне без мэты атрымання прыбытку для камплектавання ўласных фондаў.

## ЯКІЯ СУЧАСНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ ПАШЫРЭННЯ СВАБОДНАГА ВЫКАРЫСТАННЯ АЎТАРСКІХ ТВОРАЎ?

Капірайт, калі меркаваць з пункту гледжання гісторыі чалавецтва, — усяго толькі часовая з'ява, якая не павінна парушыць культурны ўзаемаабмен паміж народамі ўсяго свету.



Каб стрымаць татальны капірайт культуры і забяспечыць свабодную прастору для мастацкага і прыкладнога самавыяўлення, было прыдумана паняцце *капілэфту* (copyleft). Капілэфт-ліцэнзія не патрабуе дазволу ўладальніка на распаўсюд твора. Таксама пэўныя віды ліцэнзіі дазваляюць мадыфікаваць яго пры ўмове захавання гэтай ліцэнзіі на дэрыватыў.

Самай вядомай капілэфт-ліцэнзіяй з'яўляецца GNU-ліцэнзія. Яна звязана з IT-сферай: кожная праграма павінна распаўсюджвацца свабодна, мець адкрыты код, які можа змяняць кожны ахвотны. Так узнікла аперацыйная сістэма Linux — яна зараз стаіць на пераважнай большасці смартфонаў, вэб-сервераў, а таксама суперкамп'ютараў.

У 2002 годзе кампанія Creative Commons (ідэя Лорэнса Лесіга) стварыла некалькі відаў ліцэнзіі, якія дазваляюць аўтарам без пасярэднікаў гнутка кіраваць аўтарскімі правамі на свае аб'екты. Да твора прымацоўваецца метка *"CC"* і адзін або некалькі з чатырох значкоў: *"пазначэнне аўтарства"*, *"распаўсюд на тых жа ўмовах"*, *"без вытворных"* і *"некамерцыйны"*. Карыстальнікі могуць свабодна распаўсюджваць, змяняць, ствараць вытворныя творы ў залежнасці ад віду ліцэнзіі. На такіх умовах працуе *Wikipedia, Youtube, Flickr, TED*, музыканты пішуць трэкі, рэжысёры здымаюць фільмы. Зараз Creative Commons легальна працуе ў 74 краінах свету, у Беларусі яе пакуль яшчэ няма. Тым не менш, беларускія аўтары вольныя самі ўказваць у сваіх творах аналагічныя ўмовы выкарыстання твора, або нават пазначаць свабоднае выкарыстанне твора ўсімі мажлівымі спосабамі, пералічанымі ў *пункце 2 артыкула 16 Закона*.

Альтэрнатыўная сістэма кампенсацыі Вільяма Фішара заключаецца ў тым, што дзяржава ўзаконьвае вольнае выкарыстанне твораў у інтэрнэце і кампенсуе прыбыткі аўтара пры дапамозе дадатковага падатку.

## ДЗЕ СВАБОДНА БРАЦЬ ФОТА, МУЗЫКУ, ВІДЭА?

У інтэрнэце лёгка можна знайсці бясплатныя стокавыя сайты фатаграфіі: усе здымкі выкладваюцца з ліцэнзіяй Creative Commons, то бок іх можаш вольна выкарыстоўваць у сваіх мэтах: *StockSnap.io, IM Free, New Old Stock, AllTheFreeStock*.

"Капілэфтная" музыка маецца на *Free Music Archive, Bandcamp і Soundcloud*. На апошніх двух аўтары самі вырашаюць, пад якой ліцэнзіяй распаўсюджваць свае творы.

Відэа з ліцэнзіяй Creative Commons лёгка адшукаць на *Vimeo, Youtube, Open Footage, Pexels Videos, XStockvideo і Videvo*.



# 6. ПРАВА-ВАЛОДАННЕ

## ЯКІЯ АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ ВАЛОДАННЯ АЎТАРСКІМ ПРАВАМ?

Даўно замацаваўся прынцып, згодна з якім аўтарскія правы на твор у першую чаргу належаць яго стваральніку, то бок аўтару.

З гэтага правіла маюцца выключэнні, пра якія гаворка пойдзе ніжэй.

Па агульным палажэнні, аўтарскія правы могуць быць перададзены новаму праваўладальніку *(гл. Главу 6)* або перайсці да спадчыннікаў аўтара.



## ХТО ЛІЧЫЦЦА АЎТАРАМ?

При вызначэнні і тлумачэнні тэрміна "аўтар" узнікаюць пытанні, якія неаднолькава вырашаюцца у розных дзяржавах.

У самым простым і найбольш распаўсюджаным выпадку (у тым ліку ў Беларусі) **аўтарам** з'яўляецца "**фізічная асоба**, якая сваёй творчай працай стварыла твор" *(абзац 1 артыкула 4 Закона)*.

Перакладчык або асоба, якая робіць адаптацыю твора, таксама лічацца аўтарамі, чые правамоцтвы не закранаюць правоў на арыгінальны твор.

Юрыдычныя асобы могуць толькі выкупіць ці іншым спосабам набыць аўтарскія правы, паколькі яны пазбаўленыя здольнасці непасрэдна займацца творчасцю і таму не могуць лічыцца аўтарамі.

Аднак законы некаторых дзяржаў прызнаюць, што аўтарскія правы могуць належаць у першую чаргу карпаратыўнай арганізацыі (юрыдычнай асобе) у супрацьвагу фізічнай асобе. Гэта адносіцца да краін, якія пераняlі традыцыі англасаксонскага права.

## ЯКІЯ ПРАВІЛЫ ДЛЯ ТВОРАЎ, НАПІСАНЫХ ПА НАЙМЕ АБО ДАРУЧЭННІ?

*Абзац 28 артыкула 2 Закона* ўводзіць панятак *"службовы твор"* — твор навукі, літаратуры, мастацтва (яго частка, якая мае самастойнае значэнне), створаны аўтарам па заданні наймальніка або ў парадку выканання абавязкаў, абумоўленых працоўным дагаворам.

Аўтарскае права на такі твор належыць аўтару, а выключнае права на твор пераходзіць наймальніку з моманту яго стварэння *(пункт 2 артыкула 17 Закона)*.

## КАМУ НАЛЕЖАЦЬ ПРАВЫ НА АНАНІМНЫЯ ТВОРЫ?

Аўтарска-прававое заканадаўства, як правіла, прызнае, што па тых ці іншых прычынах аўтар можа пажадаць апублікаваць свой твор, не раскрываючы свайго імя (ананімна), пад запазычаным або выдуманым іменем (псеўданімам).

У большасці дзяржаў (у тым ліку ў Беларусі) аўтарскія правы на ананімныя творы ажыццяўляюцца выдаўцом.

Варта аднак разумець, што выдавец — не сапраўдны ўладальнік аўтарскіх правоў. Гэта працэсуальная прэзумпцыя, якая дае яму магчымасць ажыццяўляць аўтарскія правы, як правіла, да таго часу, пакуль праўдзівы аўтар не раскрые сваё сапраўднае імя.

# КАМУ НАЛЕЖАЦЬ ПРАВЫ НА СУМЕСНЫ ТВОР?

Двое або больш асобаў могуць аб'яднацца для стварэння аднаго твора. Аўтарскае права на твор, створаны сумеснай творчай працай двух альбо больш асоб (сааўтарства), належыць сааўтарам сумесна незалежна ад таго, утварае такі твор непарыўнае цэлае або складаецца з частак, кожная з якіх мае самастойнае значэнне *(пункт 1 артыкула 9 Закона)*.

Па агульным правіле гэта азначае, што асоба, якая хоча выкарыстоўваць сумесны твор, павінна спачатку атрымаць згоду ад усіх ягоных аўтараў.

# КАМУ НАЛЕЖАЦЬ ПРАВЫ НА АЎДЫЯВІЗУАЛЬНЫ (КІНЕМАТАГРАФІЧНЫ) ТВОР?

Паколькі стварэнне кінастужкі патрабуе супрацоўніцтва шматлікіх асоб, бакамі звычайна заключаецца пагадненне аб аўтарскіх правах на гатовы твор.

Законы, якія атрымалі ў спадчыну традыцыі рымскага права, у тым ліку ў Беларусі, прызнаюць аўтарскае права на кінафільм за некалькімі асобамі: рэжысёрам-пастаноўшчыкам, аўтарам сцэнара, аўтарам спецыяльна створнага пад аўдыявізуальны твор музычнага твора, аператарам-пастаноўшчыкам, мастаком-пастаноўшчыкам *(пункт 1 артыкул 12 Закона)*.





# 7. ПЕРАДАЧА АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ

## ЦІ МОЖНА ПЕРАДАЦЬ АЎТАРСКІЯ ПРАВЫ?

Аўтарска-прававыя законы, якія прызнаюць маральныя правы аўтараў, адзінагалосна зацвярджаюць правіла, што гэтыя правы звязаны з асобай стваральніка твора і таму неадчужальныя. Іншымі словамі, маральныя правы ўласцівыя толькі аўтару. На працягу свайго жыцця толькі ён сам можа карыстацца гэтымі правамі і не можа перадаць іх нікому іншаму.

У дачыненні да маёмасных правоў сітуацыя іншая.

Маёмасныя (ці эканамічныя) правы яшчэ называюць інтэлектуальнай маёмасцю.

Яны даюць магчымасць карыстацца творам па жаданні, то бок распаўсюджваць яго, здаваць у пракат, перадаваць у эфір, публічна дэманстраваць, зарабляць на ім грошы. Маёмасныя правы можна прадаваць ці перадаваць на пэўных умовах. Тады аўтар губляе права выкарыстоўваць свой твор, яно пераходзіць да праваўладальнікаў. За гэта аўтар атрымлівае ўзнагароджанне або, калі аўтар таго пажадае, перадача адбываецца бязвыплатна.

Аўтар рамана, напрыклад, можа заключыць з выдаўцом дамову аб выданні свайго твора і перадаць яму пры гэтым адно або некалькі сваіх правамоцтваў. Ён можа таксама зрабіць простае распараджэнне аб аднаразовым выкарыстанні, захоўваючы за сабой права на ўзнаўленне, апублікаванне, пераклад і адаптацыю. Выдавецтва прадаставіць выключна тыпаграфічныя паслугі. У гэтым выпадку перадача правоў не адбудзецца.

## ЯКІЯ АСНОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ ПЕРАДАЧЫ ПРАВОЎ?

Беларускі *Закон* расцэньвае правамоцтвы аўтара як ягонае выключнае асабістае права, бо твор з'яўляецца непасрэдна праз асобу свайго стваральніка. Такім чынам, гэтыя правы не могуць поўнасцю або часткова быць перададзены трэцяй асобе, як у выпадку перадачы правоў на іншую маёмасць. Яны могуць толькі прадастаўляцца на ўмовах ліцэнзіі. Апошняя азначае спецыяльны дазвол на выкарыстанне твора.

Выкарыстанне аўтарскага твора без ліцэнзіі незаконна.

Ліцэнзія бывае выключнай ці невыключнай.

**Выключная ліцэнзія** дае яе ўладальніку права, якое выключае ўсіх трэціх асоб (у тым ліку самога аўтара), на выкарыстанне твора канкрэтнымі спосабамі, указанымі самой ліцэнзіяй *(пункт 2 артыкула 44 Закона)*.

**Невыключная ліцэнзія** дае яе ўладальніку права выкарыстоўваць твор пэўным чынам адначасова з аўтарам або іншымі законнымі праваўладальнікамі *(пункт 2 артыкула 44 Закона)*.

## ЯК ПЕРАДАЮЦЦА ПРАВЫ — ЦАЛКАМ АБО ЧАСТКОВА?

У выпадку поўнага пераходу (адчужэння) правоў правапераемнік набывае ўсе маёмасныя правы аўтара на яго твор і мае права выкарыстоўваць яго так, як мог бы выкарыстоўваць толькі аўтар. Такія дамовы могуць парушыць інтарэсы стваральніка твора, калі яны тычацца ўсіх яго наступных работ або прадугледжваюць перадачу ўсіх яго правоў.



Таму беларускі *Закон* абмяжоўвае перадачу правоў на творы, якія аўтар створыць у будучыні *(пункт 5 артыкул 46 Закона)*.

Калі справа тычыцца частковай перадачы правоў, правапераемнік у адпаведнасці з дамовай звычайна атрымлівае адно або некалькі канкрэтных правамоцтваў, якія ў гэтай дамове абумоўленыя.

Напрыклад, аўтар драматычнага твора можа перадаць тэатральнаму рэжысёру права на пастаноўку, а таксама перадаць выдаўцу права апублікаваць яго твор у выглядзе кнігі. У гэтым выпадку тэатральны рэжысёр не мае права выдаваць драматычны твор, а выдавец, адпаведна, ставіць яго на сцэне.

У дамове можа быць вызначаны геаграфічны рэгіён яе дзеяння (напрыклад, толькі тэрыторыя Рэспублікі Беларусь).

## ЯК АЖЫЦЦЯЎЛЯЕЦЦА ПЕРАДАЧА ПРАВОЎ?

Перадача аўтарскіх правоў у Беларусі адбываецца **выключна на падставе пісьмовай дамовы** *(пункт 6 артыкула 46 Закона)*.

Пры гэтым тыповая форма такой дамовы адсутнічае, што дазваляе беларускім аўтарам выкарыстаць прынцып свабоды дамовы на ўсю поўніцу (у адрозненне ад краін з прывязкай да камерцыйнай практыкі).

*Закон* вылучае чатыры віды асноўных дамоваў:

- Дамова саступкі выключнага права *(артыкул 43 Закона)*;
- Ліцэнзійная дамова *(артыкул 44 Закона)*;
- Аўтарская дамова *(артыкул 45 Закона)*;
- Дамова аб стварэнні і выкарыстанні аб'екта аўтарскага права або сумежных правоў *(артыкул 46 Закона)*.

**Па дамове саступкі** выключнага права адзін бок (праваўладальнік) адчужае выключнае права на аб'ект аўтарскага права ў поўным аб'ёме другому боку на ўвесь тэрмін дзеяння аўтарскага права.

*Абавязковыя ўмовы* такой дамовы: прапісваецца памер узнагароджання, або парадак яго вызначэння, або робіцца прамое ўказанне на бязвыплатнасць.

**Па ліцэнзійнай дамове** праваўладальнік (ліцэнзіяр) дае карыстальніку (ліцэнзіяту) дазвол выкарыстоўваць адпаведны аб'ект аўтарскага права.

*Абавязковыя ўмовы* такой дамовы: спосаб выкарыстання, узнагароджанне або спосаб яго вызначэння альбо прамое ўказанне на бязвыплатнасць, магчымасць і ўмовы субліцэнзійных адносінаў, тэрмін дзеяння і тэрыторыя, на якой дапускаецца выкарыстанне аб'екта аўтарскага права.

**Аўтарскай дамовай** з'яўляецца ліцэнзійная дамова, у якой у якасці ліцэнзіяра выступае аўтар твора.

*Абавязковыя ўмовы* такой дамовы: канкрэтныя спосабы выкарыстання твора, памер аўтарскага ўзнагароджання або парадак вызначэння памеру аўтарскага ўзнагароджання за кожны спосаб выкарыстання твора, парадак і тэрміны яго выплаты.

Аўтарская дамова аб выкарыстанні твора ў перыядычным друку можа быць заключана ў вуснай форме.

**Дамова аб стварэнні і выкарыстанні аб'екта аўтарскага права або сумежных правоў** укладаецца, калі аўтар бярэ на сябе абавязак стварыць у будучыні твор і прадаставіць заказчыку, які не з'яўляецца яго наймальнікам, права выкарыстоўваць гэты твор.

*Абавязковыя ўмовы* такой дамовы: характар ствараемага твора, а таксама мэты і спосабы яго выкарыстання, тэрмін стварэння твора, памер узнагароджання або парадак яго вызначэння, а таксама ўмова аб парадку яго выплаты.

## ЦІ АБМЯЖОЎВАЕЦЦА ПЕРАДАЧА ПРАВОЎ У ЧАСЕ?

Каб даць магчымасць аўтарам заключыць дамову на льготных умовах, шэраг законаў абмяжоўвае тэрмін, на працягу якога перадача правоў будзе мець сілу. Такое абмежаванне ўлічвае той факт, што пісьменнікі і мастакі часта праяўляюць нявопытнасць або недальнабачнасць пры сваёй першай дамове і могуць пагадзіцца на нявыгадныя ўмовы. Таму аўтар павінен звяртаць асаблівую ўвагу на ўказанне тэрміну перадачы правоў на выкарыстанне аб'екта аўтарскага права ў дамове.

Калі наймальнік на працягу пяці гадоў з дня, калі да яго перайшло выключнае права на службовы твор, не пачне выкарыстанне гэтага твора ці не перадасць выключнае права на гэтую работу іншай асобе, выключнае права на службовы твор пераходзіць да аўтара, калі іншае не прадугледжана дамовай паміж наймальнікам і аўтарам *(абзац 3 пункта 2 артыкула 17 Закона)*.

Пры адсутнасці ў аўтарскай дамове ўмовы аб тэрміне яе дзеяння яна можа быць скасавана аўтарам па заканчэнні трох гадоў з даты яе заключэння, калі асоба, якой правы былі перададзены, будзе пісьмова апавешчана пра гэта не менш, чым за тры месяцы да скасавання дамовы *(пункт 3 артыкул 45 Закона)*.

## ЦІ ПЕРАДАЮЦЦА ПРАВЫ ПАСЛЯ СМЕРЦІ?

Паколькі маральныя правы аўтараў неадчужальныя, трэція асобы, напрыклад, спадчыннікі, абавязаны паважаць волю аўтара.



Аўтар можа ўкласці завяшчанне (тэстамент) на карысць любой асобы.

У выпадку адсутнасці завяшчання паўнамоцтвы па ахове маральных правоў і кіраванне маёмаснымі права перадаюцца спадчыннікам па Законе.

На працягу ўсяго тэрміну аховы (50 год) пераемнікі ажыццяўляюць гэтыя правы гэтак жа, як сам аўтар *(артыкул 42 Закона)*.

## ЦІ ПРАДУГЛЕДЖАНЫ МІНІМАЛЬНЫЯ СУМЫ ЎЗНАГАРОДЖАННЯЎ ПРЫ ПЕРАДАЧЫ ПРАВОЎ АЎТАРА КАРЫСТАЛЬНІКАМ?

У Беларусі на сённяшні момант дзейнічае шэраг нарматыўных прававых актаў, якія зацвярджаюць мінімальныя стаўкі аўтарскага ўзнагароджання:

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13.11.2012 № 1039 "Аб мінімальных памерах і парадку выплаты аўтарскага і іншых відаў ўзнагароджання ў кінематаграфіі";

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17.12.2013 № 1095 "Аб зацвярджэнні палажэння аб парадку выплаты аўтарам і іх нашчадкам адлічэнняў у выпадку публічнага перапродажу арыгіналаў твораў выяўленчага мастацтва, арыгіналаў рукапісаў твораў пісьменнікаў, кампазітараў і навукоўцаў";

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.11.2011 № 1610 "Аб мінімальных стаўках аўтарскага ўзнагароджання і ўзнагароджанняў за асобныя работы, звязаныя з выданнем твораў навукі, літаратуры і мастацтва".

Вытрымкі з апошняй пастановы прыведзены на малюнку 7 і адлюстроўваюць мінімальныя сумы ўзнагароджання для дамоўных адносінаў паміж аўтарам і выдаўцамі.

Згодна са Стандартам СТБ ГОСТ 7.60-93 *"Выданні. Асноўныя віды. Тэрміны і азначэнні"*, **аўтарскі ліст (аркуш)** уяўляе сабой адзінку вымярэння аб'ёму літаратурнага твора, прынятую для ўліку працы аўтараў, перакладчыкаў, рэдактараў і інш. Яна раўняецца 40 000 друкаваных знакаў, з улікам прабелаў, знакаў прыпынку, лічбаў, дзе няпоўныя радкі лічацца за поўныя, або 700 радкоў вершаванага тэксту, або 3 000 см.кв. узноўленага аўтарскага ілюстрацыйнага матэрыялу.

## ЗАКОН ЯКОЙ КРАІНЫ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ АЎТАРУ, КАЛІ ЯГО ВЫДАВЕЦ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ЗАМЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВЕ, А НЕ Ў БЕЛАРУСІ?

У заканадаўстве Беларусі спецыяльна выдзелена калізійная прывязка **“Закон ліцэнзіяра”** для ліцэнзійных дамоваў аб карыстанні выключнымі правамі — *падпункт 1.15 артыкула 1125 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь*. Яна адсылае да права краіны, дзе знаходзіцца асноўнае месца дзейнасці кантрагента, які валодае выключнымі правамі на аб'екты інтэлектуальнай уласнасці.

Аднак бакі ў такіх адносінах вольныя самі выбраць і прызначыць прымяняемае права асобным пунктам у дамове паміж імі (прынцып “аўтаноміі волі бакоў”).

## МІНІМАЛЬНЫЯ СТАЎКІ АЎТАРУ У БАЗАВЫХ ВЕЛІЧЫНЯХ

Паводле Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.11.2011 г. № 1610 “Аб мінімальнай стаўцы аўтарскага знагароджання і ўзнагароджання за асобныя працы, звязаныя з выданнем твораў навукі, літаратуры і мастацтва”




*Малюнак 7. Мінімальныя сумы ўзнагароджання для дамоўных адносінаў паміж аўтарам і выдаўцамі.*





# 8. ТЭРМІН АХОВЫ

## ЦІ АБМЕЖАВАНА АХОВА АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ У ЧАСЕ?

Пры распрацоўцы праектаў аўтарска-прававых законаў пераследуецца мэта заахвоціць развіццё нацыянальнай культуры. Шлях да гэтага заканадаўца бачыць у прадастаўленні аўтарам на працягу іх жыцця, а таксама іх нашчадкам і правапераемнікам выключнай магчымасці карыстацца даходамі ад аўтарскай працы. Аўтары, якія ўпэўнены, што іх творы атрымаюць ахову на пэўны тэрмін, будуць імкнуцца стварыць як мага больш твораў, узбагачаючы тым самым інтэлектуальны патэнцыял сваёй краіны. Заканадаўцы прызналі, што такая ахова патрабуе абгрунтаванай і справядлівай узнагароды аўтарам за іх творчыя высілкі.

Памкненне заканадаўцы пашырыць доступ да твораў пацягнула за сабой абмежаванне тэрмінаў аховы.

Такім чынам, аўтарскае права дае абарону маёмасных, а часам і маральным правоў толькі на пэўны перыяд часу. Пачатак адліку тэрміну, як і яго працяглaсць, не аднолькавыя ў розных краінах. У той жа час, у некаторых дзяржавах маральныя правы аўтараў прызнаюцца вечнымі.

## ЯК ДОЎГА ПРАЦЯГВАЕЦЦА АХОВА?

Паўсюдна прызнаецца, што маёмасныя правы аўтара ахоўваюцца на працягу яго жыцця і яшчэ некаторы час пасля смерці, што гарантуе ўпэўненасць у яго аўтарскіх правах на ўсё жыццё, якім бы працяглым яно не было. Найноўшыя тэндэнцыі ў галіне аўтарскага права сталі схіляцца да 25-50-гадовага тэрміну аховы правоў пасля смерці аўтара, хоць некаторыя акты прадугледжваюць больш кароткія або больш працяглыя тэрміны. Акрамя таго, аўтарскае права дае стваральніку твора ўпэўненасць у тым, што яго пераемнікі таксама змогуць карыстацца аховай на працягу пэўнага часу.

У Беларусі асабістыя немаёмасныя правы аўтара абараняюцца **бестэрмінова, вечна** *(пункт 1 артыкула 20 Закона)*.

А вось выключнае права на твор дзейнічае **на працягу жыцця аўтара і пяцьдзясят год пасля ягонай смерці** *(пункт 2 артыкула 20 Закона)*.

## ЯК ВЫЛІЧАЕЦЦА ТЭРМІН АХОВЫ ДЛЯ СУМЕСНЫХ ТВОРАЎ?

Выключнае права на твор, створаны ў сааўтарстве, дзейнічае на працягу жыцця і пяцідзесяці гадоў пасля смерці аўтара, які пераЖыў іншых сааўтараў *(пункт 4 артыкул 20 Закона)*.

## ЦІ ІСНУЮЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ ТЭРМІНЫ АХОВЫ?

Выключнае права на **ананімны твор** або **твор, што выкарыстоўваецца пад псеўданімам**, дзейнічае на працягу пяцідзесяці гадоў з моманту першага правамернага апублікавання такога твора ці пяцідзесяці гадоў з моманту яго стварэння, калі на працягу пяцідзесяці гадоў з моманту яго стварэння яно не было правамерна апублікавана са згоды аўтара.

Калі ж аўтар раскрыў сваё сапраўднае імя або яго імя перастала пакідаць сумневу, прымяняюцца агульныя нормы аховы выключных правоў.



# 9. АБАРОНА АЎТАРСКАГА ПРАВА





## ЯК ВЫКОНВАЮЦЦА ЗАКОНЫ АБ АЎТАРСКІМ ПРАВЕ?

У сувязі са значэннем творчага здабытку для чалавецтва і з зацікаўленасцю грамадства ў абароне правоў яго стваральнікаў у пераважнай большасці дзяржаў парушэнне выключных правоў аўтара разглядаецца ў якасці ўчынку, які караецца законам.

Шырока прызнаецца, што крымінальныя санкцыі разам са спецыфічнымі грамадзянска-прававымі спосабамі абароны аўтарскіх правоў уяўляюць вельмі эфектыўны сродак для забеспячэння іх дастатковай і дзейснай аховы. Таму практычна ва ўсіх нацыянальных заканадаўствах прадугледжаны судовы пераслед асоб, якія парушаюць правы стваральнікаў аўтарскіх твораў.

Аўтары, якія патрабуюць аховы сваіх правоў і прымусовай іх аховы, у розных краінах спасылаюцца на розныя нарматыўныя акты, працэсуальныя правілы і сістэмы правапрымянення. Таму іх намаганні па абароне сваіх інтарэсаў не заўсёды маюць аднолькавы вынік. Аўтары не ведаюць сваіх правоў, часта ім не хапае грашовых сродкаў, каб абараніць свае інтарэсы, і яны з цяжкасцю разбіраюцца ў складаных фармуліроўках законаў і працэсуальных правілаў. Вынікі іх намаганняў па абароне сваіх правоў розныя ў асобных краінах, але тым не менш, можна зрабіць агульны вывад аб характары парушэнняў аўтарскага права і сродках яго абароны.

## ШТО АЗНАЧАЕ ПАРУШЭННЕ АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ?

Па агульным правіле (некаторыя выключэнні агаворваюцца ў *Законе*), любое выкарыстанне ахоўваемага твора будзе правамерным толькі ў выпадку атрымання карыстальнікам ад уладальніка аўтарскіх правоў **належнага дазволу на такое выкарыстанне**.

Любое выкарыстанне твора ў парушэнне выключных паўнамоцтваў аўтара або іншага ўладальніка аўтарскіх правоў з'яўляецца **незаконным**.

Парушэнне аўтарскіх правоў у любой форме прыроўнена да крадзяжу і падлягае судоваму пераследу, як і замах на іншыя законныя правы.

## ЯК ПАРУШЭННІ АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ ТЛУМАЧАЦЦА БЕЛАРУСКІМ ЗАКОНАМ?

Парушэннямі аўтарскага права прызнаюцца любыя дзеянні, якія здзяйсняюцца ў супярэчнасці з патрабаваннямі *Закона*.

Парушальнікамі могуць прызнавацца як фізічныя, так і юрыдычныя асобы.

## ЯКІЯ ВІДЫ ПАРУШЭННЯЎ ІСНУЮЦЬ?

Самыя распаўсюджаныя віды парушэнняў — плагіят і кантрафактная прадукцыя.

Абодва ўяўляюць сабой спосабы недазволенага выкарыстання твора, які ахоўваецца аўтарскім правам. Плагіят азначае, што адна



асоба выдае чужы аўтарскі твор за свой уласны. **Кантрафакцыя** — гэта несанкцыянаванае ўзнаўленне, прадстаўленне або апублікаванне чужога аўтарскага твора любым спосабам *(артыкул 57 Закона)*. Канфіскаваныя па рашэнні суда кантрафактныя асобнікі твора падлягаюць знішчэнню за кошт парушальніка.

У сучаснай мове ўсё часцей выкарыстоўваюцца два новых тэрміны — "пірацтва" і "бутлегерства". **Пірацтва** азначае недазволены выраб асобнікаў, механічных запісаў або друкаваных выданняў твора і іх далейшы таемны продаж. Капіяванне вокладкі або афармлення бывае настолькі майстэрскім, што пакупнікі (а часам нават самі вытворцы арыгінала) аказваюцца падманутымі і блытаюць падробку з арыгіналам. Такія парушэнні прама не закранаюць выніку творчай працы, але ўладальнік аўтарскіх правоў пазбаўляецца справядлівага ўзнагароджання.

У адрозненне ад пірацтва, **бутлегерства** стварае матэрыяльныя носьбіты (CD, DVD, вінілавыя плыткі, інш.) з бутлегерскім запісам, які з'яўляецца не копіяй, але арыгінальным зборным творам, які складаецца звычайна з мноства чужых аўтарскіх твораў.

Парушэннямі аўтарскага права *(пункт 2 артыкула 55 Закона)* прызнаюцца таксама:

- любыя дзеянні, якія без дазволу аўтара ці іншага праваўладальніка дазваляюць абыходзіць любыя тэхнічныя сродкі, прызначаныя для абароны аўтарскага права;
- ліквідацыя або змяненне без дазволу аўтара ці іншага праваўладальніка любой электроннай інфармацыі аб кіраванні правамі;
- распаўсюджанне, імпарт, перадача ў эфір, паведамленне для ўсеагульнага ведама без дазволу аўтара ці іншага праваўладальніка твораў, у дачыненні да якіх без дазволу аўтара ці іншага праваўладальніка была ліквідаваная або зменена электронная інфармацыя аб кіраванні правамі.

## ХТО МОЖА ПРАД'ЯВІЦЬ ПРЭТЭНЗІЮ?

У законах большасці дзяржаў падрабязна паказана, хто можа прад'явіць прэтэнзіі і абвінавачанні ў выпадках парушэння аўтарскіх правоў. Гэта можа зрабіць любая зацікаўленая фізічная асоба, у першую чаргу, пацярпелы **аўтар ці праваўладальнік**, а таксама арганізацыя па калектыўным кіраванні маёмаснымі правамі *(пункт 4 артыкула 56 Закона)*, ці ў больш рэдкіх выпадках міжнародных парушэнняў — дзяржава, грамадзянінам якой з'яўляецца асоба, чые інтарэсы парушаны.

Іскавыя заявы (позвы) па справах аб парушэнні правоў беларускіх аўтараў разглядаюцца судом, а менавіта **Судовай калегіяй па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь**.

Прыкладны алгарытм дзеянняў аўтара ў выпадку парушэння ягоных аўтарскіх правоў прыведзены на *малюнку 8*.

# АБАРОНА АЎТАРСКІХ ПРАВОЎ:
## АЛГАРЫТМ АЎТАРА




*Малюнак 8. Алгарытм дзеянняў аўтара ў выпадку парушэння ягоных правоў*



# ЯКІМ ЧЫНАМ САБРАЦЬ ДОКАЗЫ АБ ПАРУШЭННІ АЎТАРСКАГА ПРАВА Ў ІНТЭРНЭЦЕ?

Перад зваротам у суд неабходна сабраць і забяспечыць мажлівасць прадастаўлення доказаў, якія пацвярджаюць склад злачынства.

Гэта можна зрабіць шляхам завярэння раздрукоўвак старонак інтэрнэт-сайтаў у натарыуса (на падставе *пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20.07.2010 № 1086*). Фактычна натарыус ажыццяўляе два дзеянні: асабіста адкрывае старонку на маніторы і праводзіць яе агляд. Гэта фіксуецца ў натарыяльным пратаколе.

У якасці доказаў могуць выкарыстоўвацца лог-файлы, пад якімі будзем разумець аўтаматычныя дзённікі сервера правайдара, у якіх утрымліваецца інфармацыя аб выкананні з файламі на серверы дзеянняў і аб асобах, што іх здзейснілі.

Справаздачы пошукавых сістэм, дадзеныя статыстычных інтэрнэт-сервераў даюць уяўленне аб колькасці, частаце, рэгіянальнай спецыфіцы наведвання сайтаў. Дадзеная інфармацыя мае важнае значэнне пры падліку памеру стратаў аўтара.

# ЯКІЯ ІСНУЮЦЬ МЕРЫ ПАКАРАННЯ?

Законы практычна ўсіх краін утрымліваюць нормы, якія ўстанаўліваюць разнастайныя санкцыі ў выпадках парушэння аўтарскіх правоў. Іх мэта — пакараць вінаватага і пакрыць страты пацярпелага боку. У выпадках ненаўмыснага парушэння, калі асоба не ўсведамляла, што парушае закон, звычайна прымяняецца спыненне неправамерных дзеянняў і канфіскацыя незаконна атрыманых асобнікаў твора.

**Для абароны парушанага аўтарскага права аўтар можа патрабаваць:**

- Прызнанне права;
- Узнаўленне становішча, якое існавала да парушэння права;
- Спыненне дзеянняў, якія парушаюць права або якія ствараюць пагрозу яго парушэння (заблакіраваць сайт парушальніка праз Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь);
- Прызнанне аспрэчваемай угоды (здзелкі) несапраўднай і прымяненне наступстваў яе несапраўднасці, устанаўленне факту нязначнасці ўгоды і прымянення наступстваў яе несапраўднасці;
- Прызнанне несапраўдным акту дзяржаўнага органа або органа мясцовага кіравання і самакіравання;

- Самаабарона права;

- Прысуджэнне да выканання абавязкаў у натуры;

- Пакрыццё стратаў;

- Спагнанне няўстойкі;

- Кампенсацыя маральнай шкоды;

- Спыненне або змена прававадносінаў;

- Непрымяненне судом супярэчлівага заканадаўству акта дзяржаўнага органа або органа мясцовага кіравання і самакіравання;

- Выняцце матэрыяльных аб'ектаў, з дапамогай якіх парушаныя выключныя правы, і матэрыяльных аб'ектаў, створаных у выніку такога парушэння;



В Союз Советских Писателей БССР.

Дорогие товарищи!

Пишу Вам это письмо по следующему поводу:

В свое время, по поручению редакции тома „Творчество народов СССР", выпущенного издательством газеты „Правда" к двадцатилетию Октября, я перевел на русский язык белорусскую песню „Будьте здоровы".

Песня в моем переводе была напечатана в названном томе, при чем, в оглавлении было сказано, что песня записана со слов Адама Русака в колхозе „Красный Пахарь", Копыльского района, Белорусской ССР".

Точно с таким же примечанием она была напечатана и в газете „Правда" 9 сент. 1937 г.

Другими словами – выходило так, что песня „Будьте здоровы" является народной песней в том смысле, что она не имеет своего определенного автора, что она только записана со слов тов. Русака, но не написана им.

Очевидно, ошибку эту допустили люди, собиравшие фольклор для книги „Творчество народов СССР." Но так или иначе, введенный всем этим в заблуждение, я также считал песню „Будьте здоровы" народной, т.е. не имеющей своего автора. И я не находил ничего предосудительного в том, чтобы использовать мотивы этой песни в одном из своих стихотворений, т.к. и поэты, и композиторы, как известно, имеют все права

Малюнак 9. Адкрыты ліст Міхаіла Ісакоўскага (аркуш 1)



- Абавязковая публікацыя пра дапушчаныя парушэнні з уключэннем у яе звестак пра тое, каму належыць парушанае права;

- Іншыя спосабы, прадугледжаныя заканадаўствам.

Адкрыты пералік указвае на высокі ўзровень аўтарска-прававой аховы.

Адным з самых пашыраных спосабаў аховы ў Беларусі з'яўляецца прызнанне права праз адкрытую заяву або друк паведамлення ў СМІ.

У якасці прыкладу можна прывесці адкрыты ліст Міхаіла Ісакоўскага на карысць Адама Русака — лідара па ўласных парушаных аўтарскіх правах — аб аўтарстве словаў песні “Бывайце здаровы!” *(малюнкі 9-10)*.



на использование фольклора и часто к этому прибегают. (А песню „Будьте здоровы" я, повторяю, считал фольклорной по причинам, изложенным выше).

Названное стихотворение я включил в свою книжку. В книжке, правда, имеется соответствующее примечание – по каким материалам написано стихотворение, но там опять таки сказано, что песня записана со слов тов. Русака, но ничего не говорится о том, что она написана им, т.е. повторена та же ошибка, что и в книге „Творчество народов СССР."

Между тем, в последнее время мне стало известно, что песня „Будьте здоровы" именно написана тов. Русаком, а не просто записана с его слов.

Таким образом, по неведению, мною была допущена ошибка, ибо, если поэт имеет право в той или иной мере включать в свои произведения фольклор или использовать его как-нибудь по другому, то, конечно, он не должен так поступать с вещами, имеющими своего автора.

Сообщая Вам обо всем этом, прошу Вас передать тов. Русаку мои глубочайшие извинения за допущенную ошибку, правда, невольную, но все же ошибку.

В дальнейшем названное стихотворение, само собой разумеется, переиздаваться мною не будет.

Что же касается перевода песни „Будьте здоровы", то всюду, где он будет печататься с моего ведома, будет ставиться и имя автора (песни, чего издательства до сих пор не делали.

Привет!

25/VI 940.

М. Исаковский

Малюнак 9. Адкрыты ліст Міхаіла Ісакоўскага (аркуш 2)

# ЦІ МАГЧЫМАЕ ПАКАРАННЕ Ў ФОРМЕ ШТРАФУ І ПАЗБАЎЛЕННЯ ВОЛІ?

Заканадаўства кожнай дзяржавы ўстанаўлівае санкцыі за парушэнне аўтарскага права, накладае на вінаватых пакаранне ў выглядзе штрафу, турэмнага зняволення або таго і іншага разам. Як правіла, такія меры пакарання суправаджаюцца дзеяннямі, мэта якіх — забяспечыць пацярпеламу справядлівую і дастатковую кампенсацыю, а таксама аднавіць статус-кво (то бок першапачатковае становішча рэчаў).

Усе законы, якія прадугледжваюць санкцыі за парушэнне аўтарскіх правоў, накладаюць на вінаватага грашовы штраф у выпадку здзяйснення наўмыснага дзеяння і наяўнасці віны. Такім чынам, калі парушальнік паступаў добрасумленна, ён не можа быць падвергнуты штрафу.

За парушэнне аўтарскага права ў Беларусі могуць прыцягнуць па адміністратыўным кодэксе і даць штраф да 300 базавых велічынь.

За **паўторнае** парушэнне на працягу года — крымінальная адказнасць да пяці гадоў.

# ЦІ ЎСТАЛЯВАНЫЯ ПРАВІЛЫ АБ КАМПЕНСАЦЫЯХ?

*Закон* усталёўвае мажлівасць выплаты кампенсацыі (замест узмяшчэння стратаў) у памеры ад 10 да 50 000 базавых велічынь, які вызначаецца судом з улікам характару парушэння выключных правоў. Напрыклад, калі без згоды аўтара ўзнавілі або апублікавалі твор *(артыкул 56 Закона)*.

Калі парушаюцца асабістыя немаёмасныя правы — на імя, аўтарства, недатыкальнасць, — можна спагнаць кампенсацыю за маральную шкоду.

# ЦІ ІСНУЮЦЬ АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ МЕРЫ АБАРОНЫ АЎТАРСКАГА ПРАВА?

Аўтар можа звярнуцца з заявай у мясцовае ўпраўленне ўнутраных справаў (міліцыю), каб прыцягнуць адказчыка да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці.



Альтэрнатыўным месцам вырашэння спрэчак можа стаць арбітражны суд.

Акрамя таго, аўтар можа звяртацца па дапамогу і кансультацыю ў адпаведныя дзяржаўныя органы і ўстановы:

- **Дзяржаўная ўстанова “Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці”**, які займаецца ў тым ліку і пытаннямі ўдасканальвання заканадаўства ў дадзенай сферы, а таксама можа прадстаўляць інтарэсы аўтараў.

- **Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь**, якое паўнамоцна абмяжоўваць доступ да прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, што распаўсюджваецца з дапамогай інфармацыйнага рэсурсу, размешчанага ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт *(артыкул 51 Закона Рэспублікі Беларусь “Пра сродкі масавай інфармацыі”)*.

Такое абмежаванне ўводзіцца па рашэнні Міністэрства інфармацыі ў выпадку:

- вынясення ўладальніку інфармацыйнага рэсурсу (яго часткі), размешчанага ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт, на працягу года, двух і больш пісьмовых папярэджанняў;

- распаўсюджання з дапамогай інфармацыйнага рэсурсу (яго складовай часткі), размешчанага ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт, інфармацыйных паведамленняў і (або) матэрыялаў, забароненых або абмежаваных да распаўсюджання ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь і рашэннямі суда, якія ўступілі ў законную сілу;

- невыканання ўладальнікам інфармацыйнага рэсурсу (яго часткі), размешчанага ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт, законнага патрабавання дзяржаўнага органа аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб сродках масавай інфармацыі.

# КАРЫСНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ



Дзяржаўная ўстанова "Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці", Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Казлова, 20

Афіцыйная старонка: http://www.belgospatent.org.by/

Адрас электроннай пошты: ncip@belgospatent.by

Кансультацыі агульнага і даведачнага характару: +375 17 290 44 21

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

220004, г. Мінск, праспект Пераможцаў, 11

Прыёмная: +375 (17) 203-92-31, факс: +375 17 203 34 35

Афіцыйная старонка: http://www.mininform.gov.by/

Электронная пошта: info@mininform.gov.by

Судовая калегія па справах інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь

220030, г. Мінск, вул. Леніна, 28

Афіцыйная старонка: http://www.court.by/online-help/

Практыка калегіі ў дачыненні да літаратурных твораў: http://court.by/justice_RB/ik/resh/litera/

Электронная пошта: supreme@court.by

Тэлефон даверу: +375 17 327 14 19

Прыёмная Старшыні Вярхоўнага Суда: +375 17 226 12 06

Факс: +375 17 327 12 25

Сусветная арганізацыя інтэлектуальнай уласнасці (World Intellectual Property Organization, WIPO; рас. ВОІС) — www.wipo.int

Калекцыя нацыянальных законаў і міжнародных дамоваў па інтэлектуальнай уласнасці — www.wipo.int/wipolex/en



# ВЫКАРЫСТАНЫЯ КРЫНІЦЫ


Грамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь (Раздзел V "Інтэлектуальная ўласнасць") : тэкст па стане на 01.01.2017

"Об авторском праве и смежном правах" Закон Республики Беларусь ад 17 мая 2011 г. № 262-З: тэкст па стане на 01.01.2017

"О средствах массовой информации" Закон Республики Беларусь ад 17 ліпеня 2008 года № 427-З (у рэдакцыі Законаў Рэспублікі Беларусь ад 12.12.2003 № 84-З, ад 20.12.2014 № 213-З): тэкст па стане на 01.01.2017

"О минимальных ставках авторского вознаграждения и вознаграждений за отдельные работы, связанные с изданием произведений науки, литературы и искусства" Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29 лістапада 2011 года № 1610: тэкст па стане на 01.01.2017

"О минимальных размерах и порядке выплаты авторского и иных видов вознаграждения в кинематографии" Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13 лістапада 2012 года № 1039: тэкст па стане на 01.01.2017"Об утверждении Положения о порядке выплаты автору и его наследникам отчислений в случае публичной перепродажи оригиналов произведений изобразительного искусства, оригиналов рукописей произведений писателей, композиторов и ученых" Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 2013 года № 1095: тэкст па стане на 01.01.2017

Матэрыялы ўстановы "Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва": Фонд 14, Воп. 1, Справа 15, Лл. 3, с. 1-2; Фонд 78, Воп. 1, Справа 6112, Лл. Задв, с. 7; Фонд 78, Воп. 1, Справа 615, Лл. 78, с. 74; Фонд 81, Воп. 1, Справа 341, Лл. 10, с. 9-10

Азбука авторского права. — М.: Юридическая литература,1982. — 104 с.

Международная охрана интеллектуальной собственности: учеб. пособие для студентов высших учебных заведений по юридическим специальностям / Е. Б. Леанович. — Минск: ИВЦ Минфина, 2011. — 400 с.

Основы инклюзивной модели авторского права : монография / Р. А. Будник. — Москва : Юрлитинформ, 2014. — 181, [1] с.

Синеокий О.В. "Повторные исполнения" и "Вторичные выпуски" в объективе интеллектуальных прав // Вестник ВолГУ. Серия 5: Юриспруденция. 2016. №2 (31), с. 152-155

У дапамогу аўтару / Саст. М.Горны-Іванкевіч. — Мінск: Дзярж. навук.-тэхн. выд-ва, 1934. — 51 с.

«Хай крадуць!», або Вынікі анкетавання сябраў Саюза беларускіх пісьменнікаў па пытаннях аўтарскага права [Электронны рэсурс]. — ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", Мінск, 2017: http://www.lit-bel.org/by/news/6486.html Дата доступу: 01.01.2017

Як працуе Закон аб аўтарскім праве? [Электронны рэсурс]. — Інтэрнэт-часопіс "34mag.net", Мінск, 2017. — Рэжым доступу: https://34mag.net/post/yak-pracue-zakon-ab-aytarskim-prave Дата доступу: 01.01.2017